www.nv-online.info

№ 16 (3859)

28 лютага 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ФІНАНСЫ

## Мінску не даюць паўмільярда долараў

*Еўразійскі банк развіцця рэкамендаваў радзе Антыкрызіснага фонду адкласці разгляд пытання аб выдзяленні Беларусі шостага траншу крэдыту ў памеры 440 мільёнаў долараў.*

Такое рашэнне грунтуецца на тым, што беларускія ўлады не выканалі шэраг параметраў крэдытнай праграмы.

Эксперты банка адзначаюць: Беларусь не выканала 10 паказчыкаў гэтай праграмы, палова з якіх — кантрольныя. Гэта найперш тычыцца валютных рэзерваў і прыватызацыі. Такая палітыка беларускіх улад "*прыводзіць да скарачэння міжнародных рэзерваў краіны, ціску на валютны курс і росту знешняга доўгу*".

ПОДСЧИТАЛИ...

# Профессор получает около 6 миллионов
## А медсестра — чуть больше трех

*Такие данные обнародовал на днях Национальный статистический комитет.*

*Так, в январе в промышленности средняя заработная плата составила 5903,9 тыс. рублей, в строительстве — 6538,6 тыс., на транспорте и в связи — 6104,8 тыс., в сельском хозяйстве, охоте и лесном хозяйстве — 3842,5 тыс., в образовании — 3657,7 тыс., в том числе учителей — 4305,6 тыс., профессорско-преподавательского состава — 5985,3 тыс. рублей.*

*Заработная плата работников здравоохранения и предоставления социальных услуг в январе 2014 г. сложилась в размере 3 812,4 тыс. рублей, в том числе в области здравоохранения — 3 902,6 тыс. рублей. Средняя заработная плата врачей составила 6 164,7 тыс. рублей, среднего медицинского персонала — 3 760,6 тыс. рублей.*

**Вера ВИР.**




*Какие доходы у "слуг народа" — читайте статью* ***Ирины Мальцевой "Кошт мандатаў "маўклівых і згодных".***

ПУЛЬС

## МИД держит паузу

*Белорусская сторона примет решение о выстраивании отношений с фактическим руководством Украины после того, как будут сформированы правительственные структуры.*

*"Отношения с фактическим новым руководством нашей южной соседки будут определены по мере формирования фактического нового руководства Украины"*, — заявил вчера пресс-секретарь МИД Беларуси **Дмитрий Мирончик.**

По словам Д.Мирончика, Беларусь неукоснительно следует принципу невмешательства во внутренние дела как Украины, так и других стран. *"Мы рассчитываем на скорейшее урегулирование ситуации в Украине"*, — сказал представитель белорусского МИД.

БУДЗЬЦЕ ГАТОВЫ!

## Базавая велічыня павялічыцца да 150 тысяч

*Адбудзецца гэта ў трэцім-чацвёртым квартале 2014 года.*

Пра гэта распавяла начальнік упраўлення развіцця банкаўскіх плацежных картак і электронных грошай Нацыянальнага банка Беларусі **Людміла Стэфановіч**.

Па словах прадстаўніка Нацбанка, гэтае пытанне цяпер абмяркоўваецца ў Міністэрстве фінансаў Беларусі.

Нагадаем, апошні раз базавая велічыня павышалася 1 красавіка 2012 года, тады яна вырасла з 35 да 100 тысяч рублёў.

ПАД ГРАДУСАМ

## Сакавік пачнецца з кароткачасовых дажджоў

*А зіма скончыцца адносна цёплым надвор'ем.*

Паводле прагнозаў Белгідрамета, якія агучыў вядомы сіноптык **Дзмітрый Рабаў**, у пятніцу 28 лютага ў асобных раёнах невялікія ападкі (дождж, мокры снег). Месцамі туман, ноччу і раніцай слабы галалёд, на дарогах галалёдзіца. Ноччу ад -4°С па ўсходзе да +3°С па захадзе краіны, днём +2...+8°С, у паўднёва-заходніх раёнах +9...+12°С.

А вось сакавік стартуе сапраўдным веснавым надвор'ем.

На выхадных, 1—2 сакавіка, — месцамі кароткачасовыя ападкі (дождж, мокры снег). Ноччу і раніцай у асобных раёнах туман, слабы галалёд, на дарогах галалёдзіца. Ноччу -4...+3°С, днём +2...+8°С, па паўднёвым захадзе +9...+13°С.

**Аліна ВЕТРАВА.**

СЧАСТЛИВЫЙ СЛУЧАЙ

## Третьеклассника выловили из Чижовского водохранилища

*Спасенным оказался учащийся 3-го класса одной из столичных школ.*

Сотрудники МЧС прибыли на место случившегося через три минуты после того, как получили сообщение о провалившемся под лед 10-летнем ребенке.

Спасателям школьник рассказал, что после окончания занятий в школе в 14.30 он возвращался домой (проживает на улице Краснослободской) и решил прогуляться по льду.

Мальчика с диагнозом "общее переохлаждение" положили в 4-ю детскую городскую клиническую больницу.

ПРОЕКТ

## Не больше тысячи базовых!

Национальный банк предлагает сделать предельной для выплаты наличными сумму в 1 тысячу базовых (около 13,5 тысячи долларов), а штрафы за неработающий терминал и его отсутствие сделать даже больше. Соответствующий нормативный акт уже разработан и скоро будет направлен на рассмотрение в госорганы. Штрафы предполагается применять к организациям.

*"Мы исходим из неоднократных случаев, когда при проверке установки терминалов обнаруживается, что терминал установлен, но не работает. Причем никаких объективных причин тому нет — связь с банком есть, электричество работает. То есть торговцы сознательно идут на несоблюдение требований по функционированию этого оборудования"*, — цитирует БЕЛТА начальника управления развития банковских платежных карточек и электронных денег Национального банка **Людмилу Стефанович**.

НАШИ В КИЕВЕ

*В Украине сегодня живет и работает немало известных белорусов. Некоторых из них разыскала "Народная Воля". Кем сегодня занимаются в Киеве Сергей Дорофеев и Александр Федута?*

## Сергей ДОРОФЕЕВ:
# «Хочу делать новое белорусское телевидение»

— С момента эскалации конфликта со связью здесь некоторые перебои — и с интернетом, и с эсэмэсками, и телефонными звонками, — *сразу объясняет Сергей Дорофеев плохую слышимость в телефонной трубке.* — Сейчас уже все приходит в норму, хотя на Майдане с трудом работает связь, там сожгли Дом профсоюзов, рядом с которым находились основные передатчики...

**— Сергей, знаю, что до недавнего времени вы работали на государственном канале.**

— В Украине единственный канал на дотации — Т1, а все остальные — частные. Если не полностью, то во всяком случае контрольный пакет у частника. "Интер", сотрудником которого я до сих пор являюсь согласно контракту, — негосударственный телеканал. Другое дело, что каждый вещатель работает на своего инвестора. Это факт, который можно принимать или не принимать.

Что касается моей работы на "Интере", то я по-прежнему ведущий. Другое дело, что у меня сейчас нет программ. Я ушел из программы "Касается каждого" по причине несогласия с редакторской политикой руководства канала. Сейчас вместе с коллегой делаю фильм о Тарасе Шевченко "200 лет одиночества". Это фильм о Шевченко как о человеке со всеми его добродетелями и грехами. Он, конечно, икона для украинцев, был ею и будет, но вместе с тем ничто человеческое ему не было чуждо. Это та работа, которой я сейчас, на стадии производства, очень доволен. Мне нравится то, чем я теперь занимаюсь. Кроме этого, я еще в декабре минувшего года направил руководству свои идеи по поводу новых проектов. Но, думаю, сейчас просто объективно не до моих предложений.



***Досье:*** *Сергей Дорофеев родился в 1980 году. Работал на телеканале ОНТ, был директором дирекции утреннего вещания, вел ток-шоу "Выбор". В декабре 2010 года был отстранен от эфира по политическим мотивам, в апреле 2011-го — уволен с телеканала. Последние годы живет и работает в Киеве.*

*(Окончание на 2-й стр.)*

ЭКСПЕРТЫЗА

*"Народная Воля" працягвае вывучаць дэкларацыі аб даходах кіраўнікоў living рознага ўзроўню. Гэтым разам на просьбе чытачоў мы засяродзіліся на прадстаўніках дзвюх "каст", вакол якіх у беларускім грамадстве ходзяць самыя розныя чуткі.*

# Кошт мандатаў «маўклівых і згодных»

*Чым займаецца раённы Савет дэпутатаў?.. За што ён адказны?.. Як кантралюе мясцовую уладу?..*

*Калі без фанфар, то сёння ў Беларусі гэта дэкаратыўны орган, задача якога — ствараць ілюзію народнай падтрымкі ўсяго, што робіцца ў краіне. Наша чытачка* ***Галіна Саўчык*** *папрасіла разабрацца: колькі ж плацяць за такую "работу"?*



Лозунг "Уся ўлада — Саветам!" застаўся ў гісторыі. Пасяджэнні аблсаветаў, гарсаветаў, райсаветаў ператварыліся ў нячастыя сходы маўклівых і згодных. Прычым кіруе ўсім гэтым, як правіла, асабліва "правераная" асоба — старшыня. І атрымлівае за гэтую працу грошы, аб якіх просты чалавек можа толькі марыць.

**Аляксандр Ацясаў**, старшыня Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў, напэўна, не збіраецца пакідаць сваю пасаду, паколькі зноў балатуецца ў дэпутаты. Дэкларацыя аб даходах за 2013 год, якую ён прадставіў у выбарчую камісію Гарадоцкай акругі (менавіта гэты раён спадар Ацясаў абраў для новага старту), сведчыць, што гадавы даход ад пасады старшыні аблсавета не маленькі — 192 мільёны 437 тысяч 850 рублёў. Дзелім на 12 месяцаў і бачым, што на кожны месяц прыходзіцца больш за 16 мільёнаў.

Для параўнання: паказчык сярэднямесячнай зарплаты па Віцебскай вобласці за той жа перыяд, які абнародаваў Белстат, — 4 мільёны 523 тысячы рублёў. Такім чынам, "служка народа" атрымліваў ці не ў чатыры разы болей, чым ягоны сярэднестатыстычны выбаршчык. Пры гэтым не будзем забывацца і яшчэ на адну важную акалічнасць, на якую звяртаюць увагу спецыялісты: у Беларусі толькі трэцяя частка насельніцтва мае даходы на ўзроўні сярэдніх і вышэй. Іншымі словамі, 70% жыхароў вобласці і аб гэтых 4,5 мільёна толькі мараць. Чалавек з 16-мільённым месячным даходам для іх сапраўдны багач.

**Надзея Каранкевіч** узначальвае Кіраўскі раённы Савет дэпутатаў Магілёўскай вобласці. Раён не з горшых у краіне і вобласці, але і не перадавы. Сярэдні заробак за мінулы год (Белстат пакуль дае дадзеныя толькі за студзень—лістапад, але выніковы гадавы паказчык моцна адрозніваецца не будзе) — 3,9 мільёна рублёў (іншымі словамі, сярэдняга заробку ў 500 долараў тут не дабіліся). Але дэкларацыя аб даходах старшыні райсавета сведчыць, што ў такіх умовах быць нібыта абаронцам інтарэсаў выбаршчыкаў вельмі выгадна. Гадавы даход Надзеі Каранкевіч — 135 мільёнаў 905 тысяч 819 рублёў, альбо ў разліку на месяц — 11,3 мільёна.

У 3—4 разы большыя, чым сярэднія заробкі па апякуемым раёне, і даходы іншых старшынь райсаветаў. Напрыклад, **Сяргей Зарычны** ўзначальвае Акцябрскі раённы Савет дэпутатаў Гомельскай вобласці. Гэта дазволіла яму атрымаць у мінулым годзе даход у 131 мільён 689 тысяч 533 рублі (амаль 11 мільёнаў у месяц). У гэты ж час больш за палову ягоных выбаршчыкаў толькі мараць пра сярэдні раённы паказчык — 3,8 мільёна рублёў.

**Леанід Баркоўскі** тэарэтычна — самы галоўны прадстаўнік народных інтарэсаў у Бабруйскім раёне, бо ўзначальвае раённы Савет дэпутатаў. Ён задэклараваў гадавы даход у 157 мільёнаў 250 тысяч 466 рублёў (ці 13 мільёнаў 104 тысячы рублёў у месяц).

Адчуйце розніцу, як кажуць! Сярэднестатыстычны заробак па Бабруйскім раёне склаў усяго толькі 3 мільёны 745 тысяч 500 рублёў (гэта пры тым, што ў вялікай колькасці людзей ён ледзь-ледзь перавысіў 2 мільёны).

Як бачыце, няма нічога дзіўнага ў тым, што Леанід Баркоўскі зноў балатуецца ў дэпутаты...

### Ахоўнікі галасуюць рублём

*"Народная Воля" напісала, што цяпер самы час даведацца пра сапраўдныя зарплаты людзей, якія намі кіруюць, бо многія з іх ідуць у дэпутаты і абавязаны даць справаздачу аб даходах. Карыстаючыся выпадкам, прашу газету пацікавіцца, якія ўсё ж такі заробкі ў міліцыі і іншых "праваахоўнікаў"? Бо на гэты конт ходзяць самыя розныя чуткі: адны кажуць — слёзы, і таму адтуль як быццам людзі бягуць, другія, наадварот, называюць нейкія астранамічныя сумы...*

Гэты тэлефонны званок нагадаў нам той, які паступіў у рэдакцыю ад Сяргея Паўлавіча Васілеўскага з Мінска. Сапраўды, цікавае пытанне. Наогул, ёсць раёны, дзе на райсаветы адбываецца проста нейкае наступленне сілавікоў, паколькі яны ідуць у дэпутаты сфарміраванымі камандамі.

Ну вось, напрыклад, Лагойскі раён. Як сведчыць статыстыка, сярэдняя зарплата па раёне за мінулы год склала 4 мільёны 537 тысяч рублёў (без уліку паказчыкаў снежня).

У той жа час значна лепшыя лічбы па даходах прадэманстравалі прадстаўнікі праваахоўнага блока. Так, **Дзмітрый Мілашэўскі** — начальнік аддзела ўнутраных спраў Лагойскага раёна — меў гадавы даход у 211 мільёнаў 298 тысяч 500 рублёў. У разліку на адзін месяц гэта 17,6 мільёна.

**Максім Дацькевіч** — начальнік Лагойскага раённага аддзела Следчага камітэта. Ягоны даход — 128 мільёнаў 767 тысяч 721 рубель за год, ці 10,7 мільёна ў разліку на месяц.

Самы "пакрыўджаны" ў гэтым сэнсе — раённы пракурор **Валянцін Хмуровіч**. Зразумела, што яго сярэдні даход быў большым, чым абяцаныя выбаршчыкам краіны сярэднія 500 долараў, і нават большым, чым тысяча долараў, але ў параўнанні з калегамі ён у яго самы нізкі — 97 мільёнаў 506 тысяч 219 рублёў за год, ці ў сярэднім 8,1 мільёна ў месяц.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
28 ЛЮТАГА 2014 г.

ОТКРОВЕННЫЙ РАЗГОВОР

# Фермеры

*Молодая семья оставила благоустроенное жилье в Витебске и начала заниматься фермерством в одной из деревень Сенненского района. Как живется фермерам?..*



Деревня Овчинково — в пяти километрах от райцентра. Центральная деревенская улица напоминает дорогу после бомбежки. **Сергей ХОВЯКОВ** встречает меня у своей "усадьбы". Обыкновенный домик, сараи, где находится скот, во дворе — техника: тракторы, комбайн, легковушки. Наша беседа с фермером и его супругой Полиной больше напоминает монолог. Сергею есть что рассказать о наболевшем...

— Я родился и вырос в Витебске, — начинает мой собеседник. — Отслужил в армии, вернулся в город, где и познакомился с будущей супругой. В то время решили заниматься мясом. Покупали у населения скот, имелись свои торговые точки. У отца был в деревне небольшой домик, так что туда и перебазировались. Удобно. Купил теленка, поставил в сарай, а когда нужно мясо на рынок везти — зарезал и отвез. Правда, у людей все меньше оставалось скота, пришлось, как говорят, сворачиваться. Мы обзавелись своей живностью, тем более что в стране начала продвигаться программа развития личных подсобных хозяйств, хотя она и просуществовала недолго. Но сразу же начались проблемы...

**— Например?**

— Во-первых, узнали, что пастбища не дают, сенокос не выделяют. Пришлось открывать фермерское хозяйство, хотя раньше этого и не планировали делать. Но даже после этого нас застопорили. Оказывается, в Сенненском районе нехватка земли, нет возможности ее выделять. Вроде и не отказывали, но говорили так: бери землю за 30—40 километров от того места, где твое хозяйство. И как вы себе это представляете? Мне что, нужно было коров гонять на пастбище за 30 километров? Правда, выход я нашел. Узнал, что первый помощник президента по Витебской области Пилипец приезжает в райцентр, записался к нему на прием. И знаете — помог. После визита местные власти дали-таки мне 108 гектаров земли, хотя я понимал, что и это не очень много. Сегодня из-за чего у нас умирает личное подсобное хозяйство? Раньше в деревне было 20 домов и 36 коров. Но пенсионерам уже тяжело держать хозяйство, молодежи это не надо, скотины не стало. Сельсоветы, которые выделяли пастбища, что сделали? Они сбросили эту ношу на колхозы, которые сегодня с наивной простотой говорят: а почему я тебе должен выделять пастбище? Хотя мы же сдаем государству молоко, выделите нам надел!

**— Но 108 гектаров вам дали...**

— Дали, но землю ведь нужно было досмотреть. Со всех сторон клевали, а наделы дали не самые лучшие. Купили трактор "Беларус", потом еще один. Всю технику брали за свои средства. Затем, когда был выделен льготный кредит для личного подсобного хозяйства, приобрели телок, решили расширить фермерское хозяйство. Хозяйство специализировалось на растениеводстве, подсобным занимались жена и отец. У них на двоих 35 коров дойного стада, не считая молодняка. Около 150 голов свиней держали, пока в прошлом году не повырезали.

**— Из-за африканской чумы?**

— Да, но компенсацию выплатили сразу же. Хотя убытки понесли, и немалые. У нас же забирали свиноматок, которые должны были опороситься. Каждая приносила 15—20 поросят. Вот и считайте, сколько потеряли. Продавали мы до тысячи поросят в год. Кстати, говорят, что весной снова разрешат свиней держать...

А земли катастрофически не хватало. Для скота необходимо было зерно, нуждались в земле под севооборот. Снова обратились в райисполком, там старая пластинка: берите землю за 30 километров. Около года эти песни слушали, пока я снова не попал на прием к высокому чиновнику — помощнику президента по Витебской области Домашкевичу. И снова после этого выделили 240 гектаров. У нас сегодня около 350 гектаров, но и это, я считаю, мало. Чтобы была прибыль, должны быть масштабы. А в прошлом году мы и вовсе остались в небольшом минусе.

**— Почему?**

— Вырастили зерно, оно было неплохое, а продали за копейки. В 2012 году сдавали пшеницу по 2300 рублей, а в 2013-м — по 1700. Разница 600 рублей. Кто-то говорит: что такое 600 рублей, это же мелочь! Но мы сдали 540 тонн, и наши "мелочные" потери — около 320 миллионов рублей. Плюс подорожали "химия", удобрения, солярка... Вот у меня тракторист вкалывает в поле с утра до вечера, и человеку нужно заплатить зарплату по труду. Меньше 5 миллионов никто не получал, а надо было бы больше заплатить, потому что это адский труд. Но нет возможностей поднять зарплату. Или, например, взяли в прошлом году новый комбайн. Он стоил 1 миллиард 700 миллионов рублей, из которых 800 миллионов государство погасило. Комбайн дали в лизинг на семь лет. И если семь лет подряд меня будут "кидать" с зерном на 320 миллионов, то это получится 2 миллиарда 100 миллионов потерь. Как говорят, спасибо за субсидию.

*Пока пьем кофе, наш разговор переходит в другое русло.*

*"До конца не допивайте,* — предупреждают хозяева. — *Вода такая, что осадок известы на палец".*

— Вот же парадокс! — возмущается Сергей. — На улице XXI век, а мы как будто в каменном живем. Воды в деревне нет! Пробурили скважину, но там она с известью. Скот поить еще можно, но для трехлетнего ребенка покупаем в магазине. Колонки есть, но не работают. Ходили по восемь раз и в сельсовет, и в райисполком жаловались. Простите за каламбур, как с гуся вода. Ничего не делают. Так разрешите хотя бы провести людям воду в дома, поставьте каждому счетчики. Что, это такая большая проблема? В деревне 20 маленьких детей до десяти лет. И мыть ребенка надо, и постирать каждый день. Пять лет бьемся и ничего сделать не можем. А дорогу нашу видели? Мы же платим пошлину на инфраструктуру, почему сельсовет не может отправить раз в месяц по дороге грейзер? Такие большие затраты?..

*От безысходности фермер машет рукой и продолжает рассказ о своем хозяйстве.*

— Весной опять будет проблема с пастбищами. Просили: дайте определенное место, которое будет у нас каждый год. Мы его сами и подсеем, и покосим. Не дают. Засевают или озимыми, или кукурузой. Еще и жалуются на нас.

**— Складывается впечатление, что фермеров не очень любят.**

— Не любят, думают, наверное, что мы здесь в роскоши купаемся. А я думаю, купаются другие. Вот сдаем молоко, смотрим в сельсовете — жирность нашего молока 3,4 процента. Отвозим это же молоко на проверку в Витебск — там аналогичный прибор показывает жирность уже 3,7 процента. За 10 дней сдали 919 литров, посчитайте, сколько на нас зарабатывают. И молоком нет смысла заниматься. Что такое 3300 рублей за литр? И сколько стоит литр солярки? А на корову нужно накосить, привезти сено, сложить его. Сейчас на молоке зарабатывает не сельхозпроизводитель, а посредник. Тот, кто дешево купил, добавил воды и перепродал.

**— Сейчас у вас какое хозяйство?**

— 35 коров плюс телята, почти 400 овец. Куры, гуси, индейки — это больше для себя. Занимались капустой, свеклой, морковкой, картошкой, но сегодня упор делаем именно на зерновые. Под зерновые отдали 270 гектаров, 30 — на кукурузу под силос, 50 — под травой, чтобы можно было накосить.

**— А вообще в районе много фермеров?**

— Кажется, 15 фермерских хозяйств, и у всех похожая ситуация. На подъеме те, кто начал заниматься этим делом 20—25 лет назад, у них уже есть свои магазины. Да и раньше, когда колхозы разваливались, технику можно было дешевле купить. Так что, если нет первоначального капитала, очень сложно. Приходится средства из личного подсобного хозяйства перебрасывать в фермерское, иначе не вытянули бы. Но, повторюсь, если бы еще не палки в колеса... Неужели район не мог дать землю без приказа сверху? Вы же видите, что человек работает. Я же не беру землю, чтобы она у меня стояла, а работаю на ней. Продукцию государственным структурам продаю, что вам еще надо? Не вижу никакой логики в действиях местных властей.

**— Но бросать начатое дело вы не собираетесь?**

— Можно было бы, конечно, за пару дней все распродать и уехать в Витебск. И у меня там квартира, и у жены. Но трудов жаль, когда такое развернули! Одно время жена с отцом доили 20 коров руками. Представляете, что такое подоить три раза в день 20 коров? Это потом уже поставили электродойку... Мы же с нуля начинали, хочется увидеть результат. И очень хочется понимания. Поверьте, больше ничего и не надо...

**Алесь СИВЫЙ.**
**Фото автора.**

*Сенно—Минск.*

ЭКСПЕРТЫЗА

# Кошт мандатаў «маўклівых і згодных»

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

У нашым грамадстве даўно існуе падазрэнне, што быць праваахоўнікам у Беларусі аўтаматычна азначае быць значна багацейшым, чым твой сярэднестатыстычны сусед. Цяпер пра гэта можна гаварыць з дакументамі на руках — дэкларацыямі аб даходах. Прычым такая сітуацыя ў самых розных рэгіёнах краіны.

Гомельшчына, Буда-Кашалёўскі раён. Паказчык сярэдняй зарплаты за студзень—лістапад мінулага года тут склаў 3 мільёны 865 тысяч рублёў.

Але вось ідзе ў дэпутаты **Уладзімір Свердлікаў**, начальнік раённай ДАІ. Мінулагодні даход — 104 мільёны 533 тысячы 237 рублёў (у сярэднім 8,7 мільёна ў месяц).

Яшчэ адзін кандыдат у пагонах **Жанна Караткевіч**, начальнік Буда-Кашалёўскага раённага аддзела Следчага камітэта. Яна задэкларавала гадавы даход у 136 мільёнаў 882 тысячы 833 рублі, ці ў разліку на месяц — 11,4 мільёна.

**Віталь Падзярун**, першы намеснік начальніка аддзела ўнутраных спраў райвыканкама. Гадавы даход 126 мільёнаў 992 тысячы 384 рублі, альбо у сярэднім за месяц 10,6 мільёна рублёў.

Падобна на тое, што 9—10 мільёнаў рублёў (а часам і болей) — гэта ў мінулым годзе і быў памер месячных заробкаў міліцэйскага начальства. (Між іншым, больш за тысячу долараў.) Па крайняй меры, аналізуючы дэкларацыі аб даходах, у самых розных рэгіёнах мы сутыкнуліся з такімі лічбамі.

Вось толькі некаторыя прыклады.

**Вячаслаў Чалей**, намеснік начальніка Любанскага РАУС Мінскай вобласці. За мінулы год атрымаў даход у 123 мільёны 303 тысячы 883 рублі (у сярэднім 10 мільёнаў 250 тысяч у месяц, у той час як па раёне — 3 мільёны 865 тысяч).

**Аляксандр Кучвальскі**, намеснік начальніка РАУС Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці. 108 мільёнаў 584 тысячы 930 рублёў — гэта быў даход за год, адпаведна на месяц прыходзіцца крыху больш за 9 мільёнаў. (Сярэдні раённы паказчык — 3,8 мільёна.)

**Таісія Завадская** ў Смалявіцкім раёне ўзначальвае аддзел грамадзянства і міграцыі мясцовага РАУС. Гадавы даход, як сведчаць дакументы, 109 мільёнаў 297 тысяч 739 рублёў (больш за 9 мільёнаў у месяц).

Дарэчы, цікава параўнаць даходы міліцэйскага начальства з даходамі прадстаўнікоў ніжэйшага звяна. Аказалася, што ў Смалявіцкім раёне адразу два ўчастковыя вырашылі стаць дэпутатамі — старшыя ўчастковыя **Генадзь Прусаў** і **Сяргей Мікішка**. Вось на іхнія заробкі і будзем арыентавацца. Спадар Прусаў меў гадавы даход 114 мільёнаў рублёў, ягоны калега — на 10 мільёнаў меншы. Гэта значыць, што сярэднямесячны заробак больш за тысячу долараў у эквіваленце ўчастковыя таксама атрымлівалі.

Мы ўзялі, як кажуць, сухія лічбы. Але ці ж даходы названых і іншых чыноўнікаў абмяжоўваюцца толькі афіцыйнай заработнай платай? Вы бачылі, каб нейкі раённы начальнік дабіраўся ў Мінск на кірмаш рэйсавым аўтобусам? А ці цягаюць у руках торбы з пакупкамі жонкі чыноўнікаў? Вадзіцелі многіх начальнікаў — гэта, лічы, бясплатная абслуга сям'і. Ды ці ўсё пералічаш, што задарма перападае тым, хто пры ўладзе?

Дарэчы, нам з вамі, выбаршчыкам, сярэдні заробак памерам адна тысяча долараў у месяц улады абяцаюць толькі ў наступным годзе. Па крайняй меры, такія былі планы ўрада, але не вядома, ці будуць яны выкананы. Бо цяпер прадстаўнікі выканаўчай улады пад апладысменты дэпутатаў усё часцей заяўляюць, што "грошы трэба зарабіць". Але самі яны ці зарабілі?

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ЧУЛІ?

## *Італьянцы зноў могуць усынаўляць дзяцей з Беларусі*

Беларусь зняла забарону на ўсынаўленне, уведзеную больш за 7 гадоў таму. Пра гэта піша сайт firstnews.ru, які спасылаецца на паведамленне італьянскага МЗС. Паводле слоў міністра замежных спраў Італіі **Федэрыка Магерыні**, гэта адбылося пасля працяглых перамоў паміж намесніцай кіраўніка італьянскага МЗС **Мартай Дасу** і яе беларускай калегай **Аленай Купчынай**.

Нагадаем, што забарона была ўведзена пасля скандальнай гісторыі з беларускай сіратой **Вікай Мароз** у 2006 годзе. У рамках праграмы дапамогі беларускім сіротам і дзецям Чернобыля дзяўчынка прыехала ў Італію. З 2003 года яна гасцявала ў сям'і **Алесандра Джуста і Марыі-К'яры Барначын** у Генуі. А летам 2006-га муж і жонка Джуста вырашылі не адпускаць яе назад у Беларусь. Яны заявілі, што ў інтэрнаце, дзе раней жыла дзяўчынка, яна зазнавала прымус. Тады суд па справах непаўналетніх пастанавіў, што дзіця неабходна вярнуць на радзіму, а муж і жонка Джуста схавалі Віку. Пошукі працягваліся тры тыдні, пакуль дзяўчынку не знайшлі і не адправілі ў Беларусь.

ЗА РУЛЕМ

## *Белорусы раскупают иномарки*

Импорт легковых автомобилей в Беларусь в прошлом году вырос как в денежном выражении, так и в количестве ввезенных машин.

Всего в Беларуси в 2013 году потратили на иномарки 1,1 миллиарда долларов, что на 23,4% больше, чем годом ранее. Было ввезено 102,5 тысячи автомобилей (на 22,5% больше, чем в 2012 году).

Большинство автомобилей (85,1 тысячи) было ввезено из стран дальнего зарубежья. Тут рост составил 15,1%. Из стран СНГ было ввезено лишь 17,4 тыс. автомобилей (из них 16,3 тысячи — из России). При этом объем импорта от ближайших соседей за год вырос сразу в 1,8 раза.

НАШИ В КИЕВЕ

*Сергей ДОРОФЕЕВ:*

# «Хочу делать новое белорусское телевидение»

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Еще читаю лекции, высказываю свое мнение и несогласие с информационной политикой "Интера".

В плане работы все хорошо, поэтому хотелось бы, чтобы теперь все хорошо было и у страны. Меня очень радует позиция и Майдана, и его ветки — Автомайдана, и всех небезразличных, которые говорят: мы контролировали предыдущую власть, будем контролировать и новую. У меня сейчас перед глазами как раз цитата одного из активистов Автомайдана, мне кажется, это очень важные слова: "*Пусть каждый из новых чиновников осознает, что идет работать во власть на национальные интересы, а не на собственный бизнес. Мы будем следить за этим по росту вашего состояния. Никакого кортежа. Если куда-то спешите — садитесь в метро*".

На днях на одном из белорусских сайтов прочитал цитату ведущего программы "Контуры" на ОНТ о том, что один из лидеров украинской оппозиции Яценюк якобы призвал лишить русскоязычное население Украины гражданства. Но это же ложь, неправда! Никто такого не говорил, зачем разжигают подобные страсти еще и в Беларуси? Наоборот, все говорят о том, что русскоязычное население Украины — точно такие же украинцы, тем более посмотрите, сколько их среди погибших! Не знаю, зачем я вам это говорю, но, поймите, это неправда! У тех, кто сегодня говорит на русском языке, нет никаких проблем в Украине!

**— По-вашему, можно ли было обойтись в Киеве без жертв, без войны?**

— Вопрос, конечно, правильный, но чтобы на него ответить, нужно начать с истории, перейти к геополитике, а закончить морально-нравственными категориями. Но это невозможно сделать коротко и по телефону.

Можно ли было избежать? Я ответил бы "Можно", если бы вы спросили об этом в 2010 году. В 2012 году этого избежать уже было нельзя. В интернете сейчас появляются фотографии дома бывшего генерального прокурора, резиденции уже экс-президента Януковича. Страна была в таких глубоких нарывах, что уже просто стонала от боли. И когда все эти нарывы начали вскрываться, произошло то, что произошло...

**— У вас не возникало мыслей вернуться в Беларусь?**

— Окончательно уехать из Украины я тоже не готов. В моих жилах течет ведь и украинская кровь, поэтому с этой страной я уже не порву. Но я обязательно вернусь в Минск. Очень хочу делать новое белорусское телевидение. Другое дело, что не могу сказать точно, когда это произойдет. Знаю точно, что не при этой власти.

Беларусь — моя родина. И когда меня спрашивают, скучаю ли по Минску, какой ответ могу дать? Конечно, да! Скучаю по запаху дома, улицы, города. На мой взгляд, человек не может долго жить без родины...

*Александр ФЕДУТА:*

# «На Майдане не был»



**— Александр Иосифович, расскажите, чем вы занимаетесь в Киеве? Политикой или творчеством?**

— Сейчас я работаю советником по вопросам пиара в коммерческой структуре. Пригласили бывшие коллеги по комсомолу, которых озаботила моя судьба после 19 декабря. Работы хватает, но есть возможность и спокойно заняться наукой: дописываю диссертацию.

Ехать я согласился сразу, поскольку в Минске, как вы догадываетесь, работы для меня нет. Но, конечно, получить вид на жительство можно было только после того, как закончился мой срок заключения (условного), поэтому к работе я приступил только в августе прошлого года. По законодательству я имею право получить вид на жительство на год, этим правом и воспользовался. Но и за прошлый год я подал налоговую декларацию в Беларуси (жена относила) и уплачу налоги, и за текущий год намерен сделать то же самое. Сразу поясню, что вид на жительство — это не гражданство. Это документ, выдающийся иностранцу в обмен на обязательство вести себя в соответствии с законами Украины и ничего не нарушать, фактически.

***Досье:*** *Родился в 1964 году. Окончил филологический факультет Гродненского государственного университета. Возглавлял Управление общественно-политической информации Администрации президента Беларуси. В начале 1995 года ушел в отставку и работал журналистом в негосударственных СМИ. Один из организаторов и руководителей кампании "Говори правду!". Был доверенным лицом Владимира Некляева на президентских выборах 2010 года. В ночь после выборов арестован. 20 мая 2011 года Федуту приговорили к двум годам лишения свободы условно с испытательным сроком в два года.*

**— Когда вы приехали в Киев, там было еще относительно тихо, во всяком случае никто ни в кого не стрелял. Как вы и ваши украинские коллеги отнеслись к тому, что недавно случилось на Майдане? И вам самому было страшно?**

— До рокового дня 18 февраля все было относительно мирно. А дни массовых убийств, которые положили конец президентуре Януковича, произошли во время моей командировки за пределы Украины (я летал в Сургут).

Страшно было. Но не когда я был в Киеве — там как раз Майдан был гарантом порядка и покоя: не разбили ни одной витрины на территории революции. Страшно становилось тогда, когда я, например, в аэропорту Пулково под Петербургом читал информацию о массовой гибели людей. Дело в том, что у меня на Майдане были друзья, и я боялся найти их имена среди погибших. Сидел в кафе, читал сайты и плакал.

**— А когда вернулись, ходили на Майдан?**

— На Майдане не был. По контракту я не имею права участвовать в политических акциях — это мой работодатель, знакомый с моей биографией, прописал. До конца контракта, увы, я не смогу там побывать. Либо получу специальное разрешение. Фирма, где я работаю, не занимается политикой, и неприятности им, конечно, не были нужны.

**— Лукашенко на днях заявил, что в Беларуси Майдан невозможен в принципе. Вы согласны с таким мнением?**

— Все зависит от народа и от обстоятельств. В том, что Лукашенко вынес урок из февральской украинской революции, я ни минуты не сомневаюсь. Но и зарекаться бы не стал. Наша беда ведь не в том даже, что Лукашенко учится, а в том, что оппозиция не делает выводы. Она лишь использует чужую работу как повод для собственного пиара. Приехали, сфотографировались на фоне баррикады и уехали. А Майдан — очень сложный организм, это ведь не только выступления со сцены и палатки на площади. К сожалению, есть и другие вещи, которые очень трудно организовать. Вот этому никто не учится. Все надеются на "массовость" акции. А нужно учиться!

**Марина КОКТЫШ.**

КАШАЛЁК

## *Кошты на электраэнергію выраслі больш як удвая*

*І гэта толькі за 2013 год.*

Нацыянальны статыстычны камітэт абнародаваў параўнальныя табліцы коштаў на прадукты, тавары і паслугі за студзень 2013-га і студзень 2014 года. Аказалася, што за гэты перыяд больш за ўсё ў Беларусі падраслі ў цане электраэнергія, паслугі транспарту і дзіцячых садкоў. За свет у кватэрах і дамах мы сталі плаціць у 2,1 раза болей. Утрыманне дзяцей у дзіцячых садках падаражэла на 91% — у студзені 2013-га дзень знаходжання дзіцяці ў садку каштаваў 5590 рублёў, а ў студзені 2014 года — ужо 10.700.



### Як раслі кошты ў 2013 годзе

| Паслугі і тавары | Рост коштаў у працэнтах |
|---|---|
| Электраэнергія | 214% |
| Паслугі дзіцячых садкоў | 91% |
| Гарадскі транспарт | 88% |
| Прыгарадныя аўтобусы | 56,3% |
| Газазабеспячэнне | 58% |
| Квіткі ў тэатры | 39,5% |
| Бензін | 20,2% |
| Медыкаменты | 10,4% |

Што тычыцца прадуктаў, то, згодна з дадзенымі Нацстата, яны даражэлі не з такой хуткасцю, як паслугі. А свініна, напрыклад, нават патаннела за год амаль на 2 працэнты. Мяркуючы па ўсім, сказалася чума свіней, якая ахапіла некалькі абласцей краіны. Найбольшы рост цэн адзначаўся на муку пшанічную (49%), манну (38%) і яйца (28%).

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ТЫМ ЧАСАМ

### Плаціць 100%

Віцэ-прэм'ер **Анатолій Тозік** на выніковай калегіі Міністэрства адукацыі агучыў новую прапанову: перакласці на плечы бацькоў аплату за харчаванне ў дзіцячых садках і школах. Сёння бацькі аплачваюць толькі 60% ад кошту абедаў, ва ўрадзе разглядаецца пытанне зрабіць гэтую аплату 100-працэнтнай.

МАРШРУТЫ

## *На рэйсавых аўтобусах нельга даехаць ні да Кіева, ні да Чарнігава*

"Мінсктранс" прыпыніў рух аўтобусаў ва ўкраінскім кірунку.

Аўтобусы ўкраінскага перавозчыка, якія перавозілі пасажыраў па маршруце "Мінск—Нікалаеў" і якія рухаліся праз Чарнігаў, Кіеў, Умань, Южнаўкраінск і Вазнясенск, таксама адменены.

*"У пятніцу рэйсу дакладна не будзе, а ў суботу адпраўка аўтобуса пакуль пад пытаннем",* — праінфармавалі ў міжнароднай касе мінскага аўтавакзала "Цэнтральны".

КРЫМІНАЛ

## *За мяжой з'явіліся падробкі беларускага рубля*

Фальшываманетчыкі падрабляюць памятную манету Нацбанка "Чэмпіянат свету па футболе 2014 года. Бразілія".

Як паведамляе сайт Нацбанка, у інтэрнэце з'явіліся паведамленні аб продажы на замежным рынку падробленых манет. Медна-нікелевая манета наміналам 1 рубель была ўведзена ў абарачэнне 14 мая 2013 года.

Асноўным адрозненнем, якое можна ўбачыць пры разглядзе малюнкаў на падробленай манеце, з'яўляецца ўказанне на аверсе года выпуску — 2014. Акрамя таго, падробленыя манеты могуць мець адрозныя ад сапраўднай манеты тэхнічныя характарыстыкі (сплаў, масу, дыяметр).

ПОСЛЕ СОБЫТИЯ

# Он клавишей стаю кормил с руки...

***Один из самых известных виртуозов мира — пианист Аркадий Володось выступил в Белгосфилармонии на Музыкальном фестивале искусств Спивакова.***



К сожалению, этот концерт был не сольный, а с Государственным академическим симфоническим оркестром — во втором отделении Володось исполнил Первый концерт Чайковского. “К сожалению”, потому что оркестр под управлением дирижера Аркадия Берина явно не дотягивал до высокого уровня солиста. Временами казалось, что темпы их разойдутся, как в море корабли. Но такого стыда, к счастью, не произошло. И публика, все отметив, но тем не менее простив, бушевала, неистовствовала от восторга и добилась-таки от пианиста еще пяти бисов. Естественно, без оркестра.

Аркадий не первый раз приезжает в Минск. Лет двадцать назад он, еще никому не известный юноша, учащийся, выступал у нас в музыкальном лицее. Уже тогда специалисты удивлялись его яркой одаренности. А теперь Аркадий Володось появился на главной филармонической сцене столицы во всем блеске своего неординарного дарования, а также со званием “гений фортепиано”, которое получил в награду за талант от европейской публики.

Критики единодушны в своей оценке игры Володося как исключительно виртуозной и техничной. Да, но этого недостаточно, чтобы считаться гением. У Аркадия есть какая-то сверхинтуиция, природная, словно не от мира сего растворенность в музыке. При этом он сам как физическое тело будто исчезает со сцены... Как будто не его руки, не его пальцы извлекают из инструмента феерические звуки. Да, темперамент, да, блеск, а еще предельная обнаженность чувств, космическая отрешенность от материального мира. Зал замирал, публика буквально втягивала головы в плечи от легкого озноба по коже — нас как будто пустили в небесную мастерскую, откуда, собственно, и прилетают на землю звуки...

Естественно, что у такой личности, как Аркадий Володось, необыкновенная биография. Прежде всего, отмечу с удовольствием, что корни этого всемирно известного таланта в нашей Беларуси. Его отец, Аркадий Володось-старший, известный в свое время баритон Мариинского театра Санкт-Петербурга (тогда Государственного театра оперы и балета им. Кирова), — родом со Слонимщины, из деревни Кокошицы. Сын конюха, он первый раз в жизни профессионально запел лишь в солдатском хоре, когда был призван в армию. Рядом были специалисты, которые ахнули: золотое горло! И буквально силой заставили деревенского парня поступить на подготовительное отделение при Белорусской государственной консерватории. Было это в середине 1960-х.

Не зная прежде даже элементарной музыкальной грамоты, за год Володось-старший тем не менее освоил двухгодичный курс подготовительного отделения и стал студентом. Но проучился в Минске только три года, потому что специалисты из тогдашнего Ленинграда услышали чудо-белоруса на вокальном конкурсе в Киеве и... забрали в северную столицу, сразу на сцену, в прославленный оперный театр, который тогда носил имя революционера Кирова. Так что Володось-старший заканчивал образование уже в Ленинграде, пел на всемирно известной сцене, стажировался в Италии. Там же появился на свет его первенец — тоже Аркадий, будущий пианист-виртуоз.

Но жизнь повернулась так, что вскоре Володось-старший эмигрировал из СССР в Париж. Далее его карьера певца блистательно продолжалась уже в Европе. А сын на некоторое время остался в Ленинграде с матерью. Естественно, учился музыке, поступил в консерваторию. Но характером был непокладист, не смог перейти на второй курс высшего учебного заведения, потому что не захотел сдавать экзамен по политэкономии. На дворе стояли 1990-е.

Тогда отец забрал сына-самородка из Санкт-Петербурга и определил его к известному русскому профессору-пианисту Дмитрию Башкирову, который в те годы как раз открыл в Испании собственную консерваторию. Теперь Аркадий Володось-младший живет в Мадриде. Но, в принципе, как шутят сами мировые звезды, к коим и принадлежит пианист Володось, он “бомж международного масштаба”, человек без определенного места жительства, потому что его жизнь — это вечные гастроли по лучшим сценам мира.

В 1999 году в Нью-Йоркском Карнеги-холле состоялся его дебют. С тех пор Аркадий Володось выступает в качестве солиста со всемирно известными, выдающимися оркестрами и дирижерами на лучших музыкальных площадках мира. Только в прошлом году Аркадий выступал в Буэнос-Айресе, Стамбуле, Баден-Бадене, Дортмунде, Лейпциге и Вене, а также солировал на концерте с Королевским оркестром Концертгебау в Амстердаме, в Мюнхенской филармонии и с оркестром Филармонии Осло. А его первый сольный концерт в России состоялся только в 2005 году.

И вот несколько дней назад Володось выступал в Минске. На концерте присутствовал его отец — специально прилетел из Парижа, двоюродные сестры и братья из Беларуси. После концерта в артистическую было не пробиться! Многие хотели сфотографироваться с артистом. Пианист был очень вежлив, но очень сдержан и отрешен. Ему 42. Он, наверное, немного устал от жизни на Олимпе. Он раб своего таланта, своего призвания. Он не принадлежит себе, он не принадлежит публике. Он служит Музыке. И не надо ему мешать.

**Елена МОЛОЧКО.**

ЭКСКЛЮЗІЎ

## *Мікалай КАЗЕКА: «Не час пакуль баляваць...»*

*Галоўны трэнер зборнай Беларусі па фрыстайле Мікалай КАЗЕКА распавёў “Народнай Волі”, як спартсмены адзначылі перамогі на Алімпіядзе.*

Яго называюць проста — прафесіянал. Ні з адной Алімпіяды падапечныя Мікалая Казекі не вярталіся дадому без медалёў!

Нагана-98 — “бронза” Дзмітрыя Дашчынскага, Солт-Лэйк-Сіці-2002 — “бронза” Аляксея Грышына, Турын-2006 — “серабро” Дзмітрыя Дашчынскага, Ванкувер-2010 — “золата” Аляксея Грышына, Сочы-2014 — “золата” Антона Кушніра і Алы Цупер.

Дарэчы, бацька трэнера — беларускі літаратурны крытык Янка Казека, аўтар кніг па творчасці Кандрата Крапівы, Кузьмы Чорнага. Быў галоўным рэдактарам выдавецтва “Беларусь”.

Хаця Мікалай Іванавіч выбраў іншы шлях у жыцці, але неяк распавядаў журналістам, што не так даўно прачытаў “Гамлета” ў беларускім перакладзе і гэта было для яго сапраўдным адкрыццём.

І сын трэнера не пайшоў па слядах бацькі. Ён скончыў Дэнверскі ўніверсітэт у ЗША, працаваў у Германіі выкладчыкам у Фрайбургскім універсітэце.

*“Сын ужо дастаткова самастойны,* — казаў Казека ў інтэрв’ю “Народнай Волі”. — *Ён захапляецца сноўбордам. І займаецца навуковай работай. Як кажуць, выбраў для сябе крыху іншую дарогу, чым бацька”.*

Пасля Гульняў у Сочы Мікалай Іванавіч узнагароджаны ордэнам Айчыны І ступені.

— Я вельмі ўдзячны, што так высока ацанілі маю работу, — распавядае ён. — І тут трэба разумець, што фрыстайл для мяне — гэта не толькі работа, а ўсё жыццё. Я ж стаўлюся да яго, як да роднага дзіцяці. Хіба без душы ў гэтай справе атрымаецца?

**— Вас пакінулі ўжо ў спакоі пасля Алімпіяды?**

— Будуць яшчэ нейкія мерапрыемствы ў прафсаюзах, практычна цэлыя дні заняты.

**— Ці адзначылі два залатыя медалі ў вузкім коле са спартсменамі?**

— А як тут адзначыш, калі сезон яшчэ не закрыты? Не час пакуль баляваць. У нас наогул прынята падводзіць вынікі пасля таго, як прайшлі ўсе спаборніцтвы. Так што адзначаць будзем пасля 27 сакавіка...

**Алесь СІВЫ.**



ЯК ГЭТА БЫЛО...

*1953 год. 5 сакавіка. Па-рознаму запомніўся ён людзям.*

# Дзень, калі памёр Сталін

“Я ніколі не забуду дзень, калі памёр Сталін, — казала мая цётка Марфа, — бо ў гэты дзень у нас нарадзіўся бычок”.

## *Заняткі адмянілі!*

Зіма ў той год была снежная, а ў першыя дні сакавіка снегу падкінула яшчэ столькі, што мы не ішлі нават, а з цяжкасцю сунуліся ў школу. А яна была далёка — у вёсцы Ракшын, за пяць кіламетраў ад нашай.

У Ракшынскую сямігодку хадзілі дзеці з вёсак Паганцы, Ельнічкі, Сасноўка, Астроўчыцы, Стужкі, Судавіца, Мольча і з нашай — Здудзічы.

Калі ў школе мы сустрэліся з іншымі аднакашнікамі, то ўжо сярод усіх толькі і было размовы, што пра смерць Сталіна. Усе чакалі, адменяць заняткі ці не.

Прагучаў званок на першы ўрок, усе разышліся па класах. У нашым сёмым “А” першы ўрок — Канстытуцыя СССР, якую выкладаў сам дырэктар школы. У класе — цішыня. Усе ўтаропіліся на дзверы. Яны адчыняюцца — і ў клас уваходзіць дырэктар. Застукалі крышкі парт, усе ўсталі, вітаючы яго, і ўбачылі, што прыйшоў ён без класнага журнала.

Павітаўшыся, пасля невялікай паўзы ён сказаў: “Наша краіна і ўсе мы панеслі вялікую страту. Памёр наш бацька, правадыр і настаўнік Іосіф Вісарыёнавіч Сталін... — на вачах дырэктара паказаліся слёзы, а потым пацяклі па шчоках. — Заняткі ў школе адмяняюцца”.

Ізноў застукалі крышкі парт, затупалі па падлозе ногі — мы кінуліся да вешалкі, што стаяла з правага боку ад дзвярэй, і давай штурхацца, хапаць свае куфайкі, світкі, у некага шапкі пападалі пад ногі... Калі апрануліся, дырэктара ў класе ўжо не было.

Ажыўленыя, радасныя ад таго, што заняткі адмянілі, усе высыпалі на школьны двор. Хто кідаўся снегам, хто паліў свой “Бокс” ці “Ракету”, а хто кпіў з таго, як плакаў дырэктар.

...Дома пасярод хаты на нейкай дзярызіне ляжаў цялёначак, а на лавах сядзелі суседкі, вялі размову з маці ды цёткай.

— Нешта ж ты рана сёння, — сказала мне цётка Марфа.

— А ў нас заняткі адмянілі — Сталін жа памёр, — адказаў я.

— Ну вось бачыце, — сцішыла голас цётка Дуня, — у школе нават заняткі адмянілі.

— Што б там ні казалі, а ён усё-ткі быў вялікі чалавек, — сказала суседка Адар’я.

— А я запомню гэты дзень, бо ў нас нарадзіўся бычок, — пажартавала цётка Марфа. Яна ў любой сітуацыі знаходзіла ноткі гумару.

— Можа, і мой Грыша вернецца, — ціха сказала маці і цяжка ўздыхнула.

Бацька быў арыштаваны праз некалькі гадзін пасля майго нараджэння 15 снежня 1937 года. 5 студзеня 1938-га яму споўнілася (у турме) 38 восем гадоў. 8 студзеня 1938-га асобая тройка вынесла прысуд — ВМП, а 5 лютага 1938-га мой бацька быў расстраляны. Вядома, што ў Мінску. Толькі дзе?

Няма адказу.

## *Байкот*

Дакладна не памятаю, калі ў нашай школе з’явілася Людміла Іванаўна і стала выкладаць фізіку, — ці то калі я быў у 9-м, ці то ў 10-м класе. Гэта была маладая дзяўчына, можа, на два-тры гады старэйшая за нас, бо мы, дзеці вайны, у школу пайшлі таксама са спазненнем.

Памятаю, нас здзіўляла, што яна выкладала прадмет акурат з падручніка — думалі, што гэта завочніца з якога-небудзь другога ці трэцяга курса.



Але ў адрозненне ад усіх настаўнікаў, якіх мы вельмі паважалі і шанавалі (а ў выкладчыцу рускай мовы і літаратуры Марыю Захараўну Кайкову ўсе нашы хлопцы былі закаханыя), Людміла Іванаўна была грубіянка, якіх свет не бачыў. Яе абразы — “казёл”, “авечка”, “асёл”, “тупіцы”, “ідыёты” — ляцелі ў наш адрас ледзь не на кожным уроку.

Наша цярпенне скончылася, і мы вырашылі Людачку, як мы яе называлі паміж сабой, правучыць. Аб’явіць ёй байкот, але так, каб не падставіць каго-небудзь з аднакласнікаў.

У прызначаны дзень, калі фізіка была першым урокам, староста класа і дзяжурны павінны былі спазніцца, што было лёгка зрабіць, бо амаль усе мы хадзілі з вёсак за 2—5 кіламетраў.

Празвінеў званок на ўрок. Мы сядзім за партамі і чакаем прыходу Людачкі. Яна ўваходзіць у клас. Усе сядзяць — схілілі галовы, пільна вывучаюць свае ногі. Не ўстаём, не вітаемся. Людміла Іванаўна стаіць збянтэжаная. Паклала на стол класны журнал, разгарнула. Па заведзенай звычцы дзяжурны павінен устаць і назваць, хто адсутнічае. Але дзяжурны не ўстае, бо спазняецца.

— Староста, што здарылася? — Людміла Іванаўна шукае вачамі старасту. Але і яго няма.

Мы ведалі, што ўрок яна не пачне праз свой запальчывы характар — і сапраўды, вельмі ўсхваляваная, са слязамі на вачах, настаўніца пакінула клас. Мы ведалі, што зараз прыйдзе дырэктар і ўстроіць разнос. Але ў нас быў свой план.

Вось прыходзяць дырэктар і класны кіраўнік.

— Староста, што ў вас здарылася? — пытаецца дырэктар.

— Яго няма, — пачулася з “камчаткі”.

І тут мы загаварылі ўсе разам. Нічога не зразумела, адно шум, гам... Дырэктар падняў руку, супакоіў усіх і пачаў распытваць кожнага вучня. Усе скардзіліся на брыдкаслоўе настаўніцы.

Выслухаўшы нас, дырэктар сказаў:

— Добра, мы разбяромся. Больш гэтага не будзе. А цяпер ідзіце ў настаўніцкую і папрасіце ў Людмілы Іванаўны прабачэння.

Мы адмовіліся.

З таго часу Людміла Іванаўна стала, як кажуць, “хоць да раны прыкладвай”. Супраць нас не было прынята ніякіх мер, і за сцены школы канфлікт не выйшаў.

Але, здаецца, ініцыятарам байкоту палічылі мяне — і адыграліся на выпускным.

## *Атэстат за лыжы*

Выпускны вечар першага выпуску Ракшынскай сярэдняй школы адбыўся ў 1956 годзе. Намаганнямі настаўнікаў і выпускнікоў быў падрыхтаваны ўрачысты стол.

Аб’явілі аб адкрыцці вечара. Дырэктар прачытаў прыказ па школе, і пачалося ўручэнне атэстатаў сталасці. Вызваны выпускнік падыходзіў да дырэктара, той выдаваў атэстат, пацiскаў руку, і ўсхваляваны выпускнік вяртаўся на сваё месца за сталом, а мы пляскалі ў ладкі. Але мяне не вызвалі, прозвішча было прапушчана.

Трэба сказаць, я быў лепшым вучнем класа ды і, напэўна, школы і карыстаўся аўтарытэтам сярод аднакласнікаў. Ды і наогул, мы былі як дзеці адной сям’і, браты і сёстры.

Як мне казалі потым нашы хлопцы і дзяўчаты, усе палічылі, што мне, як лепшаму вучню, атэстат уручаць апошняму, каб можна было сказаць яшчэ некалькі цёплых слоў у мой адрас.

Вось агучана апошняя фамілія — Шынкевіч... Дырэктар уручае выпускніцы атэстат сталасці, кладзе спіс на стол, аглядвае ўсіх і гаворыць:

— А Бастунцу Леаніду мы атэстат не ўручаем, таму што ён не здаў школьныя лыжы.

Я падышоў да дырэктара і сказаў, што зараз заплачу за лыжы. Дырэктар не згадзіўся.

З лыжамі адбылося вось што. Нам дазвалялі браць лыжы дадому на выхадныя, і аднойчы ў мяне іх скралі. Я тады сказаў пра гэта фізруку. Ён трохі падумаў і махнуў рукой: “Ат!” Але ж, бачым...

Я хацеў пакінуць вечар, але падумаў, што хутка вось рассыплемся ўсе па Саюзе і ці ўбачымся калі-небудзь у жыцці... і вырашыў застацца. Падышоў фізрук і параіў купіць і вярнуць лыжы без палак і крапяжу.

Назаўтра, пасля выпускнога вечара, я пайшоў у Парычы, за 15 кіламетраў ад нашай вёскі. Дзякуй Богу, у кнігарні там прадаваліся лыжы. Мне прадалі іх, як я і прасіў, без палак і крапяжу. Заплаціў я 25 рублёў, знайшоў нейкую папутную машыну, даехаў да школы, аддаў лыжы дырэктару, які жыў пры школе, а ён аддаў мне мой атэстат сталасці.

Да гэтага часу не ведаю, па якой прычыне так абышліся са мной на выпускным вечары: за байкот, за лыжы, ці праз тое, што я сын “ворага народа”. А можа, за ўсё разам.

**Леанід Рыгоравіч БАСТУНЕЦ, мінчанін.**



ПРАВДА

Сегодня советский народ, все прогрессивное человечество провожают в последний путь своего великого вождя и учителя Иосифа Виссарионовича СТАЛИНА.

БЕССМЕРТНОЕ ИМЯ СТАЛИНА БУДЕТ ЖИТЬ ВЕЧНО!

ВЕЛИКОЕ ПРОЩАНИЕ

СВАЯ СПРАВА

## *Галоўная агракультура Віцебска — грыбы?*

*Малады прадпрымальнік Юрый Альфер упэўнены, што будучыня сельскай гаспадаркі Беларусі за шампіньёнамі.*

Два гады таму **Юрый Альфер** заснаваў сваю фірму “Майстар-грыб”, а сёння прадукцыя, што вырошчваецца на міні-ферме ў вёсцы Васількі, карыстаецца папулярнасцю ў Віцебску і Мінску і рыхтуецца да выхаду на расійскі рынак, піша газета “Жыццё Прыдзвіння”.

Нягледзячы на патрабавальнасць шампіньёнаў да ўмоў росту, расціць іх выгадна. Грыбок вырастае ўсяго за 40 дзён! Гэта дазваляе мець не менш за восем абаротаў культуры ў год у кожным культывацыйным памяшканні. Юрый Альфер упэўнены, што калі атрымаецца пашырыць вытворчасць, то беларуская прадукцыя зможа заваяваць і расійскі рынак. Адзіная праблема — тэрмін прыдатнасці ў свежых шампіньёнаў усяго 5—7 дзён.

Прадпрымальнік верыць, што, калі справа пойдзе, Віцебшчына можа зрабіць шампіньён сваім сімвалам.

**Марыя БУДНІК.**

СОВЕТЫ

# Восемь полезных способов применения лимона

### Долька для стекла

Сейчас производители бытовой техники предлагают множество посуды из прозрачного стекла — вплоть до чайников. Но многие отказываются от покупки из опасений, что красивыми те останутся недолго — вид быстро испортит темный налет. Напрасно, потому что это дело легко поправимое: нужно просто время от времени протирать стекло изнутри и снаружи долькой свежего лимона. Через 15 минут просто промойте чайник и насухо вытрите.

### Кислое против накипи

Вам кажется, что, включая по утрам чайник, приходится ждать чая дольше, чем прежде? Загляните внутрь: скорее всего виноват толстый слой накипи. Самый простой, дешевый и эффективный способ за одну ночь избавиться от этого — лимонная кислота. Ее нужно добавить в воду из расчета на литр воды 1 столовая ложка порошка, прокипятить, оставить на ночь, а утром вымыть чайник, удалив остатки накипи зубной щеткой. Если накипь особенно “злая”, можно просто насыпать на дно лимонной кислоты, добавить столовую ложку воды, закрыть чайник и оставить до утра. После этого его нужно промыть и дважды прокипятить в нем чистую воду (обязательно сливайте!).

### Возвращает белизну

Обладателям белых кед прекрасно известно, что однажды наступает момент, когда они перестают быть белыми. Встает вопрос: что делать? Не все стиральные машины позволяют стирать в них обувь, однако вернуть кедам белизну можно и вручную. И тут пригодится лимон! Для чистки белой обуви можно приготовить пасту из стирального порошка для белых вещей, лимонного сока и уксуса (столового, не эссенции!), а особо “упорные” пятна удалить смесью ментоловой зубной пасты с несколькими каплями лимонного сока.

### Чистка от жирного

Иногда бывает так, что нужно срочно вымыть жирную сковороду, а моющее средство закончилось или его не рекомендуется использовать для конкретной посуды. Тогда выручит лимон: обмакните дольку в соль и протрите ею сковородку. Сполосните и повторите. После насухо вытрите бумажным полотенцем.

### Уничтожитель зеленки

Где старая добрая зеленка — там вечная проблема испачканных пальцев: смазать ранку — дело двух секунд, избавиться потом от зеленых пятен на собственных пальцах — как минимум двух дней. Но все-таки с помощью лимона можно убрать их быстрее: для этого нужно смешать спирт с лимонным соком, смочить в растворе ватный тампон и хорошенько протереть пальцы, после чего вымыть руки с мылом.

### Защита для яблок

Вечный повод для раздражения любой хозяйки, особенно когда ожидаются гости: порежешь яблоки, поставишь на стол, и через пять минут они выглядят совершенно непривлекательно. А дело, между прочим, легко поправимое: срезы яблок нужно смазать лимонным соком — тогда они не потемнеют.



### И никакого запаха

Тому, кто появляется на кухне не только, чтобы поесть, приходится время от времени иметь дело с чесноком. А значит — переживать потом из-за запаха, исходящего от рук. Есть две хитрости, которые помогут решить проблему: если пользуетесь прессом, опускайте туда неочищенный чеснок — кожицу потом легко удалить, если режете его, сразу вымойте руки с мылом и протрите мякотью лимона.

### Блеск для хрома

Успех уборки в ванной комнате часто омрачается тем, что не удается убрать белый налет на хромированных поверхностях — например, на водопроводных кранах или ручках. И тут пригодится лимон: просто разрежьте его, натрите все, что должно блестеть, половинкой плода, после чего отполируйте мягкой тканью.

ЗНАЙ НАШИХ!

# Белорусы взяли 50 медалей благодаря волнам и прическам-брошкам

*Еще один невероятный успех белорусов на международной арене — наша команда завоевала полсотни наград на Международном фестивале парикмахерского искусства "Невские берега"!*

*О том, как это было, "Народной Воле" рассказала главный тренер команды, абсолютная чемпионка семи стран Европы, победитель Олимпийских игр по парикмахерскому искусству, обладатель многих медалей чемпионатов Европы и мира, тренер и судья международного класса* ***Анастасия Яткова****.*

## Неожиданное золото

Без малейшего кокетства Анастасия Яткова отметила, что 50 побед в номинациях — далеко не предел для белорусской команды. В прошлом году с "Невских берегов" наши мастера привезли 75 наград, годом ранее — 78! В престижнейших состязаниях в Санкт-Петербурге белорусы участвуют уже в седьмой раз. За это время мастера всего один раз заняли второе место, все остальное время они получали высшие награды.

*— В конкурсах, которые проходят на "Невских берегах", принимает участие 4,5 тысячи профессионалов,* — рассказала Анастасия. — *Охвачено все: парикмахерское искусство, визаж, нейл-дизайн (декорирование ногтей), боди-арт, тату и даже массаж.*

Наивысшая награда конкурса среди юниоров досталась студентке Минского государственного технологического колледжа **Вере Соц**. Девушка представила шесть уникальных образов, перед которыми жюри не смогло устоять. А вот **Екатерине Ятковой** до Гран-при чемпионата во взрослой номинации не хватило совсем чуть-чуть. Судьи конкурса не могли не отметить стремления мастера к высшей оценке и вручили ей специальный приз "За волю к победе". К слову, Екатерина — младшая сестра Анастасии Ятковой.

## Большая семья

Рецепт побед белорусских мастеров универсальный и неизменный — нужно очень много работать. Порой увлекаются так сильно, что втягивают в дело всю семью!

*— Каким бы талантливым ты ни был, без подготовки ничего не выиграешь,* — делится мастер. — *На каждую прическу дается конкретное время: 18—20 минут. Нужно довести движения до автоматизма. Поэтому подготовку начинаем за три месяца, а иногда и за полгода. Мы тренируемся, конкурсанты шьют костюмы для своих моделей. Иногда обращаются к профессионалам, иногда шьют сами. Когда я участвовала в конкурсах, костюмы мне помогали создавать мои родители.*

Анастасия признается, что всегда предпочитает кнуту пряник. Поддержка близких и позитивная атмосфера в команде приносят свои плоды. Может, поэтому, став именитыми мастерами, бывшие участники команды не спешат искать счастья на стороне?

*— В основном все наши мастера остаются в Беларуси,* — подчеркнула тренер. — *По личному опыту могу сказать — работать и зарабатывать можно везде. Главное — не лениться, любить свою профессию. Когда чувствуешь себя на 200% своей в выбранном деле, успех придет. Я два года работала в Санкт-Петербурге и благодарна судьбе за опыт, который удалось получить, но все равно вернулась домой. Там, где семья и друзья, чувствуешь себя увереннее.*



### СОВЕТ ОТ МАСТЕРА

## Лучше косметики — сон и тепло!

Как оказалось, спящая красавица была права! Главный рецепт красоты от Анастасии Ятковой — здоровый сон. Ну, и еще пара хитростей...

*— Для того, чтобы чувствовать себя счастливой и быть красивой, нужно высыпаться, — рекомендует эксперт. — Конечно, при этом нужно ухаживать за кожей и волосами. Помните, что внешний вид зависит от наших мыслей, чувств. Всегда думайте о позитиве!*

*Ну а что касается рецептов красоты... Не распускайте волосы в холодную погоду, не забывайте защищать от ветра лицо. За собой нужно ухаживать, внимания достойно всё: волосы, кожа, пальчики. Сейчас такой огромный выбор косметики и парфюмерии, что даже с ограниченным бюджетом можно позволить себе пять минут ухода.*

### КСТАТИ

## Здравствуйте, мальчики!

Времена, когда в парикмахерской работали исключительно мужчины, давно минули. Юноши не мечтают стать цирюльниками или брадобреями, зато с удовольствием примеряют звание стилиста.

*— В команде у нас не только девушки, но и представители сильного пола, — рассказывает тренер Анастасия Яткова. — У нас три тренера: я занимаюсь женской секцией,* ***Игорь Конан*** *опекает хаер-тату — художественный выстриг волос; третий тренер — специалист по мужским работам* ***Артем Шидловский****. Традиционно мальчишки хотели заниматься с Артемом, но в этом году несколько парней решили учиться женским прическам. Еще пару ребят записались на следующий год. Все способные, болеющие нашей профессией.*

## Их ценят за быстроту, они — за адекватность

Анастасии и ее команде довелось поработать, наверное, на всех известных белорусских телепроектах. В копилке мастеров подготовка шоу "ЕвроФест", конкурс красоты "Мисс Интерконтиненталь-2013" и многие другие статусные мероприятия. Помогают профи наводить красоту и самым обычным клиентам салонов красоты. С кем работать проще? *"С адекватными"*, — не задумываясь, отвечает Анастасия.

*— На том же "ЕвроФесте" или конкурсе красоты мы создаем образ, о котором нас попросили,* — отмечает победительница Олимпийских игр по парикмахерскому искусству. — *На конкурсах же мы можем реализовать все самые сокровенные желания и фантазии. Большое преимущество конкурсных мастеров — отточенная работа. Здесь нет лишних движений, и времени расходуется меньше. Например, на "Мисс Интерконтиненталь-2013" нужно было за час сделать прическу и макияж двум моделям.*

*При этом на конкурсе мы можем сделать невероятную прическу на лбу, а в повседневной жизни никто это носить не станет. Но стоит этот же элемент перенести в зону затылка — появится совершенно коммерческая, красивая, носимая прическа.*

## Брошки и волны

Специалисты говорят, что понять, какую из причесок делал уроженец Беларуси, очень просто. Там, где больше изысканности и филигранной работы, скорее всего поработал наш мастер.

*— Все прически от наших мастеров на "Невских берегах" были воздушными, романтичными,* — вспоминает мастер. — *Например, укладка в виде сердец или волнами. Кстати, эти волны считаются одним из самых сложных элементов в парикмахерском деле. Работы нашей команды всегда изящные и ювелирные — это наш фирменный стиль. Нас уже узнают по этим элегантным ювелирным прическам-брошкам.*

*Каждая страна и каждый мастер имеют свой характерный почерк. Поэтому каждая прическа в любом уголке мира будет иметь какую-то свою особенность. Естественно, прическа-победитель на мировом чемпионате становится эталоном для всех — именно на нее принято ориентироваться и на конкурсах, и в повседневной работе.*

Так что смело можно просить парикмахера укладывать волосы волнами или сделать затейливую брошь. Именно эти элементы будут в моде благодаря нашим звездным мастерам.



**Мария МАЛЕВИЧ.**

ГАСТРОЛІ

## *Кітайскі дэбют Купалаўскага*

*Частка трупы Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы з'ехала на гастролі ў Пекін. Там на сцэне Народнага мастацкага тэатра ў рамках міжнароднага тэатральнага фестывалю пакажуць спектаклі "Вяселле" і "Не мой".*

Дэкарацыі ў Пекін адправілі яшчэ напрыканцы мінулага года. Гастролі арганізаваны па запрашэнні кітайскага боку, іх падрыхтоўка заняла амаль паўтара года. Дарэчы, пяціразовы лаўрэат Нацыянальнай тэатральнай прэміі спектакль "Не мой" падчас гэтых гастроляў будзе ўпершыню паказаны за мяжой.

Народны мастацкі тэатр Пекіна — адзін з буйнейшых тэатраў Кітая з паўвяковай гісторыяй. Яго заснавальнік і першы дырэктар — драматург Цао Юй. У сваім рэпертуары тэатр робіць акцэнт на пастаноўку драматычных твораў кітайскіх аўтараў, хаця апошнім часам ставіць і творы сучасных замежных аўтараў, адаптуючы іх у нацыянальным стылі.

**Аліна ВЕТРАВА.**

НЕ ПРОПУСТИТЕ!

## *«Вестсайдская история» возвращается!*

*Знаменитый мюзикл снова будет идти на сцене Музыкального театра.*



Напомним, что легендарный бродвейский мюзикл в Музыкальном театре поставили два года назад. Проект называли уникальным, поскольку в Беларуси впервые появился лицензионный мюзикл мирового уровня. Также благодаря помощи Посольства Соединенных Штатов Америки в Республике Беларусь активное участие в постановке принимали балетмейстеры Пол Эмерсон и Джейсон Игнасио, а также дирижер-постановщик Филипп Симмонс, что стало настоящим подарком для труппы театра.

Белорусскому государственному академическому музыкальному театру предоставлены права на постановку с возможностью авторского прочтения: оригинальной режиссерской интерпретацией и оригинальной хореографией, основанной на концепции Джерома Роббинса. Но лицензию давали лишь на год и на ограниченное количество показов.

С сегодняшнего дня Музыкальный театр возобновляет показ мюзикла "Вестсайдская история" и приглашает любителей музыкального искусства насладиться уникальной и весьма богатой американской культурой.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## *Маці Надзеі Скардзіна:* «Зараз дачцэ можна было б і замуж...»

*Наталля Георгіеўна, маці бронзавай прызёркі Алімпіяды, распавяла "Народнай Волі" пра "медалёвыя планы" сваёй сям'і, а таксама пра тое, ці не збіраецца яе дачка пасля трыумфу ў Сочы замуж.*



Падчас сустрэчы беларускіх алімпійцаў у аэрапорце была заўважана і Наталля Георгіеўна, мама бронзавага прызёра Гульняў Надзеі Скардзіна. Яна спецыяльна прыляцела ў Мінск з Санкт-Пецярбурга (а жыве ў Сестрарэцку), каб павіншаваць дачку.

**— Магчыма, пасля Алімпіяды Надзея задумаецца і аб тым, каб выйсці замуж?** — пацікавіўся ў Наталлі Георгіеўны карэспандэнт "Народнай Волі".

— Вы ведаеце, так... Аб асабістым жыцці ўжо трэба задумацца, бо час ідзе. Аднак канчатковы выбар, натуральна, за дачкой.

**— У вас сямёра дзяцей. Ці хацелі б, каб і ў Надзеі была вялікая сям'я?**

— Думаю, яна была б не супраць. Іншая справа, што зараз іншы час, шматдзетных сем'яў менш. Як каму наканавана. Я вось заўсёды брала прыклад з бабулі, у якой было шасцёра сваіх дзяцей і шасцёра прыёмных. А ці будзе з мяне Надзя прыклад браць? Паглядзім...

**— Вы — маці-гераіня?**

— Маці-гераіня — гэта калі ў цябе дзесяць дзяцей. А мне, калі нарадзілася пятая дачка, далі ордэн Мацярынскай славы.

**— Адным словам, узнагарода ў вас з'явілася раней, чым у дачкі.**

— Атрымліваецца, што так. Але ж у Надзеі ўсё яшчэ наперадзе...

*Адказала маці беларускай біятланісткі і на пытанні іншых журналістаў.*

**— Вашы першыя словы дачцэ пасля перамогі?**

— "Разумніца!" Што тут яшчэ можна дадаць? Астатнія словы казалі трэнеры. Ды і самі спартсменкі настройвалі сябе на перамогу.

**— Як вы даведаліся, што Надзея заваявала "бронзу"? Глядзелі трансляцыю па тэлебачанні?**

— Я ў гэты час у паліклініцы сядзела. І тут!.. Як пасыплюцца тэлефонныя званкі! Мяне ўся паліклініка віншавала — і ўрачы, і наведвальнікі. Такое ніколі не забудзеш... А старэйшага брата Надзі навіна заспела ў інстытуце, дзе ён здаваў экзамен. Дзякуй Беларусі, што ўсё так атрымалася!

**— Ваша дачка перайшла ў беларускую зборную з расійскай...**

— Так, але ў Расіі яна займалася лыжнымі гонкамі. А вось сапраўднай біятланісткай стала менавіта ў Беларусі. Вашы трэнеры зрабілі прапанову, Надзя паспрабавала — спадабалася... І вось збылася яе мара, бо алімпійскі медаль — гэта вяршыня для кожнага спартсмена.

**— У Сочы яе нехта падтрымліваў?**

— Малодшая дачка нейкім чынам прарвалася на апошнюю гонку.

**— Надзея вельмі добра страляе. Магчыма, сярод родных былі снайперы?**

— Не памятаю такога. І наогул, у нашай сям'і прафесійных спартсменаў няма. Мой муж, Валерый Мікалаевіч, займаўся крыху тэнісам, а ўсе астатнія — фізкультурнікі-аматары. Дачцэ, напэўна, Бог і трэнеры далі нейкія здольнасці. Ды і дзядзька дапамог, калі 6-гадовай Надзейцы падарыў лыжы. Уласна кажучы, з гэтага ўсё і пачалося. Спачатку ўсёй сям'ёй у парку бегалі па снезе, затым у школе з'явіўся трэнер... Далей вы ўсё ведаеце.

**— У вас акрамя Надзеі яшчэ шасцёра дзяцей?**

— І яшчэ іх зводныя брат і сястра, гэта мужавы дзеці.

**— Наша прызёрка Алімпіяды нейкім чынам адрознівалася ад астатніх дзяцей?**

— Яна была самая спартыўная — ужо ў два гады сама гойдалася на арэлях. А вось яе брацік-двайнятка гэтага не мог зрабіць.

**— Шматдзетная сям'я — гэта таксама ў нейкім сэнсе подзвіг...**

— Колькі Бог даў, столькі і ёсць. Тым больш што муж (а яго з намі ўжо пяць гадоў няма) — з італьянскімі каранямі. А ў Італіі вітаюць вялікія сем'і. Дарэчы, прозвішча Скардзіна ў перакладзе з італьянскага азначае "падлешчык". А маё прозвішча Кібер. Мой дзед быў з прыбалтыйскіх немцаў, затым перабраўся ў Піцер ды там і асеў.

**— Чым ваша дачка захапляецца акрамя спорту?**

— Малюе, пісала вершы, добра гатуе... Калі прыязджае дадому, то заўсёды цягне нас на нейкія экзатычныя мерапрыемствы — пагуляць у боўлінг, кёрлінг, міні-гольф. Але за спортам часу ў яе на гэта не так і шмат...

**Алесь СІВЫ.**
**Фота аўтара.**

ВАКАНСІЯ

## *Шукаем бас!*

*Вялікі тэатр Беларусі аб'явіў праслухоўванне ў хор тэатра.*

Патрабуюцца тэнары, басы і барытоны. Узрост да 30 гадоў.

Прафесійная вакальная падрыхтоўка абавязковая.

SOS!

## *В Беларуси каждый день от рака шейки матки умирает одна женщина*

*Наблюдается рост онкологических заболеваний всех органов репродуктивной сферы, в том числе тела матки, яичников, шейки матки, вульвы и влагалища. На первом месте по распространенности — рак тела матки, сообщил руководитель онкогинекологической группы РНПЦ онкологии и медицинской радиологии им.Н.Н.Александрова* ***Сергей Мавричев****.*

Он отметил, что в странах Западной Европы и Северной Америки заболеваемость раком шейки матки уменьшается, в то время как в Беларуси — растет. В 2012 году она составила 17,6 случая на 100 тыс. женщин, а смертность — 6,9 на 100 тыс. женщин, передает БелаПАН.

Рак шейки матки является проблемой не только женщин 50 лет и старше, но и молодежи. В 2013 году в Гомельской области из-за этого заболевания умерла 15-летняя девочка. По данным РНПЦ, от этого заболевания умирает около 5% онкобольных женщин (в целом в Европе — 2,34%).

Мавричев рассказал, что примерно у 60% заболевших рак шейки матки выявляется на I и II стадиях. При раннем выявлении женщинам проводят операции с сохранением детородной функции. По данным РНПЦ, случаи выявления рака шейки матки в четвертой стадии составляют около 10%. Для сравнения: в Польше, где не проводится массовый скрининг, — 3,8%, в Нидерландах — 4,4%.

По словам Мавричева, вообще не должно быть случаев позднего выявления рака шейки матки на III—IV стадиях, так как у всех женщин в Беларуси во время профилактических осмотров у гинеколога берут мазок и далее проводят цитологическое исследование. Можно сделать вывод, что обследование женщин неэффективно, сказал Мавричев.

Он отметил, что медики ждут начала пилотного проекта по скринингу рака шейки матки со взятием мазков по эффективной методике Папаниколау, которая в настоящее время в Беларуси вообще не используется. Планируется, что проект будет запущен в 2014 году в Минске при поддержке ЕС и России. Он будет включать закупку необходимого оборудования, реактивов и обучение специалистов. Вместе с тем врач рекомендовал женщинам не отказываться от профилактических осмотров, проводить назначенные врачом исследования, в том числе кольпоскопию, и вакцинироваться от вируса папилломы человека, который вызывает рак шейки матки.

ВЕРНІСАЖ

## *Самую дарагую беларускую карціну выставяць у Нацыянальным мастацкім музеі*

*"Белгазпрамбанк" прадстаўляе "Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі" — менавіта такую назву носіць буйнамаштабная экспазіцыя, якая адкрыецца 26 сакавіка і будзе працаваць аж да ліпеня. Ужо цяпер гэтую падзею можна без перабольшання назваць унікальнай: пад адным дахам збяруць у літаральным сэнсе дзесяць стагоддзяў айчыннага мастацтва. Сярод шматлікіх экспанатаў, якія ўпершыню будуць прадстаўлены ўвазе шырокай публікі, адзін варта адзначыць асабліва.*

На выставе ўпершыню будзе дэманстравацца карціна Хаіма Суціна "Ева", набытая "Белгазпрамбанкам" на аўкцыёне Sotheby's.

Варта нагадаць, што ў Беларусі, на гістарычнай радзіме Суціна, аж да 2012 года не было ніводнай яго карціны. У 2012 годзе "Белгазпрамбанк" набыў яго працу "Вялікія лугі ў Шартры", якую можна было ўбачыць у рамках арт-праекта "Мастакі Парыжскай школы з Беларусі". Яшчэ адным каштоўным набыццём стала карціна Хаіма Суціна "Ева", напісаная ў 1928 годзе. Хаім Суцін па праве з'яўляецца адным з найвялікшых майстроў выяўленчага мастацтва. Яго партрэты розных гадоў аб'ядноўвае імкненне разгадаць таямніцу персанажа, перадаць яго псіхалагічны стан у нялёгкія моманты глыбокага роздуму, адчаю, пакут душы. Партрэт "Ева" прыцягвае, зачароўвае сваёй энергетыкай. Мы адчуваем на сабе пранізлівы, загадкавы позірк гераіні.

Што прыцягвае ў гэтай рабоце і, калі браць у цэлым, у асобе Суціна? Гэтае пытанне і сёння не пакідае ў спакоі ні мастацтвазнаўцаў, ні наведвальнікаў аўкцыёнаў, ні звычайную публіку. Вось што адказвае куратар выстаўкі "Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі" **Уладзімір Шчасны**:

*— Суцін быў у першую чаргу каларыстам. Галоўная каштоўнасць яго работ — гэта колеры, якія ён выкарыстоўваў для адлюстравання прыроды альбо людзей. Таму для "Белгазпрамбанка" вельмі важна было набыць пасля "Вялікіх лугоў у Шартры" партрэт, бо Суцін яшчэ вядомы і як партрэтыст. Было вялікай удачай знайсці такі значны яго твор на аўкцыёне ў наш час, таму што цяпер такія работы прадаюцца за велізарныя грошы. Трэба сказаць, што гонар любога музея — мець у сваёй экспазіцыі работу Суціна, тым больш напісаны ім партрэт. Як вядома, на постсавецкай прасторы ёсць толькі адна карціна Суціна — яго аўтапартрэт (цяпер у Эрмітажы), і набыццё гэтага твора павысіла ўзровень карпаратыўнай калекцыі "Белгазпрамбанка".*

У 1912 годзе Хаім Суцін прыехаў у Парыж зусім невядомым юнаком з беларускай глыбінкі, але ўжо праз 10—12 гадоў яго карціны пачалі купляць. У перыяд з 1922-га па 1925 год ён робіцца вядомым.

Акрамя таго, што "Ева", бадай, самая дарагая карціна ў Беларусі, яна цікавая тым, што належыць лепшаму перыяду творчасці Суціна. У 1928 годзе ён знаходзіўся ў зеніце сваёй славы. Распавядае намеснік генеральнага дырэктара па навуковай рабоце Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь **Надзея Усава**:

*— Карціна вельмі прыгожая і ледзь не самая рэалістычная з усіх партрэтных твораў Суціна. Тут няма той узбударажанасці палітры, таго экспрэсіянізму, якія ўласцівыя многім партрэтам Суціна. Тут ёсць спакойная гармонія, якая сведчыць аб тым, што ў гэты перыяд жыцця мастак знаходзіўся ў поўнай згодзе з самім сабой. Таму на гэты твор будзе цікава паглядзець не толькі спецыялістам, якія ўжо бачылі Суціна на мінскай выстаўцы "Мастакі Парыжскай школы", але і шырокаму гледачу. Як вядома, Суцін — рэдкі мастак у нашых краях. І з'яўленне новай карціны ў Беларусі — гэта выдатна! Гэта выклікае цікавасць да нас буйнейшых музеяў — не толькі былога СНД, але і Еўрасаюза — у якасці важкай падставы для выставачнага абмену.*



**Вера ВІР.**

